Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск 25 - 31 ліпеня 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ




## Адным абзацам

Летась маладзечанскай камісіяй па кантролі за захаваннем цэнаў і правілаў гандлю праверана амаль 300 прадпрыемстваў. Парушэнні выяўлены ў 35% выпадкаў. Сёлета праверана, натуральна, пакуль меншая колькасць, але парушэнні знойдзеныя ўжо ў 48%. Абнадзейвае.

Свята каталікоў "Урачыстасць Маці Боскай шкаплернай" адбылося ў Мядзеле. На працягу 3 дзён вернікі прысутнічалі на імшы, маліліся, прынялі ўдзел у Крыжовым шляху.

На фоне рэгулярных абяцанняў кіраўніка дзяржавы аб значным скарачэнні колькасці ўпраўленцаў колькасць работнікаў апарату дзяржаўнага кіравання за апошнія 7 год вырасла на 18,8 тысячы чалавек і складае каля 84 тысяч. Перабудова апарату кіравання і стварэнне праславутай прэзідэнцкай вертыкалі на месцах прывялі замест скарачэння чыноўнікаў да з'яўлення больш грувасткай структуры ўпраўленцаў. Застаецца дадаць, што чыноўнікі атрымліваюць заработную плату, якая на 525 тысяч рублёў перавышае сярэднюю зарплату па народнай гаспадарцы.

У вышэйшых навучальных установах рэспублікі пачалася пара ўступных экзаменаў. 17 ліпеня на экзамене па мове большасць абітурыентаў пісала сачыненне на вольную тэму: "Мы, беларусы, з братняю Руссю..."

Вырашэнне комплексу праблем сацыяльнага забеспячэння пенсіянераў прызваная здзейсніць вынесеная на агульнае абмеркаванне ўрадавая Канцэпцыя рэформы сістэмы пенсійнага забеспячэння ў Рэспубліцы Беларусь. Сёння пенсійная сістэма, як і ўся эканоміка ў цэлым, знаходзіцца ў стане крызісу. У Беларусі на аднаго пенсіянера прыходзіцца толькі 1,6 працуючых - самы дрэнны паказчык у Еўропе, і гэтыя суадносіны будуць пагаршацца. Ужо сёння на выплату пенсій штомесяц патрабуецца каля 75 млн. долараў, якія збіраюцца з вялікай цяжкасцю.

Прэзідэнт А. Лукашэнка выказаў сур'ёзную заклапочанасць сітуацыяй на беларускай мытні, ад работы якой у многім залежыць эканамічная бяспека краіны і напаўняльнасць бюджэту (мытня дае 27% паступленняў у казну). На нарадзе ў прэзідэнта адзначалася слабае выкарыстанне патэнцыялу мытнай сістэмы, няздольнасць кіраўніцтва мытнага камітэта вырашаць пастаўленыя задачы, вялікая колькасць парушэнняў і злоўжыванняў у мытных падраздзяленнях. Для аздараўлення становішча ў мытных структурах будзе створана контрразведвальнае забеспячэнне сіламі КДБ.

Падобна да поспеху Расіі, Мінфін Беларусі збіраецца ў бліжэйшы час размясціць свае каштоўныя паперы на еўрапейскім рынку. Па аптымістычных прагнозах праграма "Беларускі еўрабонд" магла б прыцягнуць у эканоміку краіны дадатковыя інвестыцыі на суму 500 млн. долараў і падняць аўтарытэт Беларусі ў якасці ўдзельніка міжнароднага рынку фінансаў.

Дваццаць сёмага ліпеня - у дзень абвяшчэння незалежнасці рэспублікі - Беларускі народны фронт і сацыял-дэмакратычная партыя правядуць дазволеныя Мінскім гарвыканкомам мітынг і шэсце.

У панядзелак пачынаецца другі этап аперацыі "Аграрнік", якую праводзяць аддзелы ўнутраных спраў. За першы этап (пасяўную) аддзел эканамічнай злачыннасці Вілейскага ГРАУС правёў 36 рэйдаў, выявіў 18 злачынстваў, склаў 272 адміністрацыйныя пратаколы.

## Гуляй, Вілейка!

***У мінулыя выхадныя вілейскі гарадскі парк адзначыў сваё дваццацігоддзе. На самой справе парк бярэ свой пачатак яшчэ з мінулага стагоддзя, а ў 1977 годзе гарвыканком афіцыйна зацвердзіў парк як месца масавага адпачынку гараджан.***

З чортавага кола, што ўзнясе вас над царквой, паркам, касцёлам, можна агледзець амаль усю Вілейку, падперазаную блакітным паяском Віліі. Парк якраз і ўзнік некалі на высокім правым беразе ракі. На тэрыторыі сённяшняга парку яшчэ ў 1839 годзе была ўзведзена першая ў горадзе праваслаўная драўляная царква ў імя святцеля Мікалая (затым перавезеная ў Новы Мядзел). Стаялі ў парку свайго часу помнікі Пілсудскаму і яго цёзку Сталіну, скульптурная выява коласа (з малой літары). Але перш за ўсё ён помніцца вілейчанам як месца адпачынку: камусьці дзіцячай пляцоўкай з арэлямі, а некаму "шайбай" - піўнушкай, якая дачасна згарэла і аддала сваё імя нязграбнай пабудове паблізу "Зеніта", дзе ўжо не бывае той даверлівай атмасферы аматараў адпачыць за куфлем піва з бочкі. Як бы тое ні было - без гарадскога парку Вілейку ўявіць немагчыма, таму і сабраліся сотні, а можа і больш гараджан на свята парку, арганізаванае гарадскімі ўладамі.



***На здымку: маладыя Галіна і Андрэй КАСЯКІ едуць на свята парку, каб сустрэцца з парай, якая ўзяла шлюб ў Вілейцы роўна дваццаць год таму.***

*Фота Міхаіла УСЦІНОВІЧА.*

## Патрабуюцца на работу

*СМАРГОНЬ.* Муляр (15), цясляр (15), маляр-тынкоўшчык (15), электрык (6), машыніст экскаватара (3), інжынер-праграміст (1). **Тэл. для даведак 32130.**

*МЯДЗЕЛ.* Даярка (6), жывёлавод (2), будаўнік (6), газаэлектразваршчык (2), грузчык (2). **Тэл. для даведак 55835.**

*АСТРАВЕЦ.* Юрыст (1), інжынер-электрык (1), ветурач (1), заатэхнік (1), токар. **Тэл. для даведак 21708.**

Інфармуе Маладзечанскі цэнтр занятасці насельніцтва

**Запрашаюцца:**

**"Аксаміт"**: швяя - 20 чалавек, **тэл. 71187,**

**ДРБУ-195:** аператар кацельні (з пасведчаннем, кацёл Мінск-1), **тэл. 33911,**

**АТ "Будсервіс" (СПМК-87), МПМК-212, СПМК-88, МБ "Чысць-бау", РБУ, БМУ "ІФ"**: маляры, муляры, цесляры, страхары, бляхары, лесарубы,

**Радыёзавод "Спадарожнік"**: гал. энергетык, цеплатэхнік, інжынер-электронік, інжынер-праграміст, спецыяльнасць інжынера канструктара - 2 чалавекі (радыст і будаўнік), інжынер па маркетынгу, **тэл. 77823,**

**Райграмхарч**: буфетчыкі, повары, афіцыянты, прадаўцы, **тэл. 75181,**

**РКБА**: вадзіцель аўтамабіля, слесар-электрык, гал. механік, **тэл. 51951,**

**Станказавод**: інжынер па маркетынгу, інжынер-канструктар (па металаапрацоўцы), **тэл. 70833,**

**Ф-ка музінструментаў**: рабочыя будаўнічых спецыяльнасцяў, спецыялісты па дрэваапрацоўцы, эканаміст, аператар станкоў з ЛПК (ЧПУ).



## Кніга скаргаў

### "Ронда" не радуе

***МАЛАДЗЕЧНА. Сектарам аддзела цэнаўтварэння Мінаблвыканкома праверана мясцовае кафэ "Ронда".***

З прычыны завышэння цэнаў з кафэ спагнана крыху больш за 1,5 мільёна рублёў (разам са штрафнымі санкцыямі). Высветлілася, што да сваёй II катэгорыі ўзровень абслугоўвання там не сягае, а ў меню адсутнічаюць да 80% заяўленых страў. Адзначаны нездавальняючы санітарны стан у кафэ; не на належным узроўні бухгалтарскі ўлік.

Да ўхілення недахопаў дзеянне ліцэнзіі кафэ "Ронда" (ТАА "Амід") прыпынена.

*Аддзел інфармацыі.*

## Навіны

### Басовішча-97

***БЕЛАСТОК. Шосты раз сабраліся на свой фестываль рок-музыканты з Беларусі і Польшчы. 16-19 ліпеня беларускае згуртаванне моладзі ў Польшчы запрасіла іх у мястэчка Грудак. Падтрымку аказала польскае Міністэрства культуры.***

4 дні нашы і польскія беларускамоўныя групы (былі, у прыватнасці, "Крама", "Палац", "The Geai" і інш.) цёпла сустракала публіка ад 14 да 50 год. Гучалі песні на беларускай, польскай, англійскай мовах.

У рамках фестывалю ўпершыню сустрэліся сістэмныя аператары некамерцыйных камп'ютэрных сетак FidoNet - з Беларусі, Украіны, Польшчы, Германіі.

- Уражанні вялікія, - сказаў удзельнік сустрэч маладзечанец **Уладзімір Клюеў**. - Шматнацыянальны палатачны гарадок, цікавасць палякаў да беларускай мовы. Адзін украінец прыехаў сюды аж за 540 км на веласіпедзе. Праз год будуць новыя сустрэчы.

*Аддзел інфармацыі.*

### Фестываляць палякі на Беларусі

***АШМЯНЫ. Тут мірна жывуць людзі многіх нацыянальнасцяў. Нядаўна ў трэці раз праведзены фестываль польскай песні.***

Арганізатарам свята выступалі "Саюз палякаў Беларусі" і мясцовы аддзел культуры, якія змаглі сабраць мноства як дарослых, так і дзіцячых калектываў. Радавалі сваім выступленнем гледачоў дзяўчынкі з Жупранаў, вакальная група з Навасёлкаў, гурток польскай песні з Барунаў, іншыя. Але, бадай, самую вялікую колькасць апладысментаў "сабраў" вядомы харавы калектыў таварыства "Польскія кветкі".

Дапамагалі ў правядзенні фестывалю МП "Бехол", кінатэатр, кавава-цыкорная фабрыка. Мяркуецца фестывалі праводзіць і надалей. Каб толькі спонсары былі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Патаннеюць труны, пабольшае дроў

***ВАЛОЖЫН. Мець карысць там, дзе, на першы погляд, ёсць толькі страты, гэтаму майстэрству вучацца сёння жыхары Валожыншчыны. Больш за 700 гектараў лесу пасля ўрагану ўяўляюць сабой суцэльны буралом.***

Каб зацікавіць прадпрыемствы, арганізацыі і гаспадаркі раёна ў расчыстцы замацаваных за імі дзялянак, раённы выканаўчы камітэт устанавіў зусім сімвалічную - 1700 рублёў за кубаметр - цану за нарыхтоўваемую сваімі рукамі драўніну. З энтузіязмам узяліся за работу па ачыстцы і нарыхтоўцы лесу работнікі РКБА: запас таннай сыравіны дазволіць ім зрабіць таннейшай прадукцыю сталярнага цэха - труны на 30%. Магчымасць нарыхтаваць ледзьве не бясплатныя дровы ёсць і ў любога жыхара раёна.

Таму чалавек з сякерай ці бензапілой у валожынскіх лясах цяпер сустракаецца на кожным кроку.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

### Хочаце ў Крым?

***МАЛАДЗЕЧНА. Баскетбольную каманду мясцовай ДЮСШ сёлета чакаюць сур'ёзныя выпрабаванні - першынство вобласці, краіны.***

У верасні плануецца правядзенне міжнароднага турніру з удзелам юнакоў з Польшчы, школы Сабоніса з Каўнаса. На жаль, школа на сёння мае ўсяго пару мячоў...

Хаця магчымыя спонсары могуць зацікавіцца наступнай інфармацыяй: аддзяленне баскетбола мае спартыўна-аздараўленчы летнік у Крыме і жадаючых заўсёды зможа звазіць на аздараўленне.

*Аддзел інфармацыі.*

### Будаўнікі як небяспека

***СМАРГОНЬ. Гродзенская абласная горна-тэхнічная інспекцыя правяла ў раёне комплекснае абследаванне аб'ектаў, падкантрольных праматамнагляду.***

Выяўлена 549 парушэнняў нормаў, інструкцый, правілаў. Прыпыненая работа 49 аб'ектаў з накладкай пломбаў. Аформлена 18 пратаколаў на штраф, 6 з якіх - на кіраўнікоў прадпрыемстваў. Асабліва неспрыяльныя абставіны па эксплуатацыі грузапад'ёмных кранаў у ВА ЖКГ.

На 4 будаўнічых аб'ектах спыненая работа кранаў. Таксама парушэнні выяўленыя пры эксплуатацыі паравых і вадагрэйных катлоў.

*Аддзел інфармацыі.*

 



# Агуркі па-азербайджанску

*МАЛАДЗЕЧНА. Пакупнікі скардзяцца на гандляроў з поўдня. Маўляў, перакупшчыкі трымаюць цэны, абважваюць, могуць абразіць. Ці можна іх утаймаваць? Хаця перакупшчыкі, вядома, ёсць розныя.*




## "Добрыя"

Новы мясны павільён разлічаны на 60 гандлёвых месцаў. Амаль усе занятыя. Свіная выразка каштуе 85 тысяч, смажанка - 65, косткі - 38, галёнка - 35.

Цэны маглі быць значна вышэйшыя, - упэўненыя ў адміністрацыі рынку, - бо вяскоўцаў, якія прывезлі мяса, чалавек з 10. Астатнія - перакупшчыкі. Сапраўды, цяжка ўявіць натоўп пакупнікоў на дзесятак шчырых працаўнікоў сяла. І атрымаецца, што гандляваць яны будуць не проста свінінай, а пазапочанай (калі лічыць па цэнах). Адбываецца, што "спекулянты" нас кормяць, прычым "спекулююць" афіцыйна: маюць пасведчанні прыватных прадпрымальнікаў (гандлёва-закупачная дзейнасць), плацяць падаткі.

## "Злыя"

Азербайджанец гандлюе агуркамі. Смешна і адначасова сумна. Агародніна купляецца оптам. Тут жа, у тых, хто непасрэдна іх вырошчвае. А зрабіць даведку, што, напрыклад, у Мамаджанава ёсць палеткі ў калгасе "Камуніст" - не праблема. Былі б грошы. Лічу, што сябры з поўдня ніколі не з'едуць. Калі іх будуць прыціскаць, Мамаджанавы возьмуць на работу мясцовага прыватнага прадпрымальніка. Той заключыць з гаспадарамі, як з прадаўцамі, дагавор. Будзе мець неабходныя паперы: таварныя накладныя, адрыўныя талоны, закупачныя ведамасці... Праўда, будзе плаціць падаткі. Пакуль што тыя ж азербайджанцы проста спекулююць. Калі што - згодна з нашым заканадаўствам, грамадзяне іншых дзяржаў да крымінальнай адказнасці за спекуляцыю не прыцягваюцца.

*P. S. У сераду сябры з поўдня на рынку не гандлявалі. Цэны на тыя ж агуркі паступова пачалі падаць. З 12 тысячаў паменшыліся да 9.*

*Васіль САВІЦКІ.*
*Калаж Ігара Войткі.*

**Бывае і такое**

# 2 мільёны ўзялі 152 разы

*ВАЛОЖЫН. "РГ" паведамляла ў мінулым нумары аб дапамозе літоўскай фірмы жыхарам Валожыншчыны. Многім падасца неверагодным: выцягнуць з уласнай кішэні 30 тысяч долараў і падзяліцца з тым, хто трапіў у бяду.*

Але пачуўшы пра бедствы суседзяў-беларусаў, якім нядаўні ўраган нанёс вялікую шкоду, прэзідэнт Літоўска-Беларускага канцэрна SBA Арунас Марцінкявічус вырашыў дапамагчы. Адзінай умовай, што паставіў кіраўнік буйной вытворча-камерцыйнай кампаніі, быў яго непасрэдны ўдзел ва ўручэнні грашовай дапамогі канкрэтным жыхарам Валожыншчыны і гаспадаркам.

152 сям'і, закранутыя чорным крылом стыхіі, атрымалі ад зусім невядомых людзей па 2 мільёны рублёў. Раённыя ўлады сабралі гэтых пакутных людзей з разбураных вёсак у два населеныя пункты, Яршэвічы і Пральнікі, дзе і былі ўручаныя запаветныя канверты з грашыма. Такой канцэнтрацыі гора, радасці і ўдзячнасці даўно не даводзілася бачыць. І было шчымліва-прыемна на сэрцы ад усведамлення, што ёсць на свеце людзі, у якіх "разумная добрая душа" (менавіта так расшыфроўваецца і перакладаецца з лацінскай мовы назва канцэрна SBA).

Высакародная акцыя літоўскага прадпрымальніка мела і сур'ёзную дыпламатычную падтрымку. У ёй прымалі ўдзел паслы Беларусі ў Літве і Літвы ў Беларусі.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

**Крымінал, здарэнні**

# Бендэра злавілі. Але не Астапа

*ВІЛЕЙКА. Начальнік ГРАУС Сяргей Кухарчык затрымаў у сталіцы земляка і, нейкім чынам, нават свайго калегу - юрыста з вытворчасці. Дзеянні апошняга можна параўнаць з работай хірурга, калі б той перарэзаў горла хвораму.*

Юрыст Д. (ідзе следства, таму прозвішча не называем) уваходзіў у давер да грамадзян і падманам завалодваў іх грашыма. Каму абяцаў юрыдычныя паслугі (вызваліць ад зняволення падследнага), каму пасрэдніцкія паслугі ў набыцці аўтамабіля, нерухомасці. Такім чынам, па словах следчых, выманіў 40 тысяч долараў ЗША, паспеў атрымаць незаконны крэдыт у 30 мільёнаў рублёў, выкраў наяўнасць ў фірмы з Мінска.

Ахвяры падману не заяўлялі ў міліцыю, чакалі да апошняга. Пакарыстацца паслугамі рэкета - аддаць палову "згубленай" сумы; а падаць заяву ў суд - плаціць дзяржпошліну ды і чакаць разгляду справы некалькі месяцаў. Таму ўсе імкнуліся абысціся сваімі сіламі. Падчас правядзення следства ўсплываюць сумы далёка не маленькія - да 8 тыс. долараў за паслугу.

***Вілейскі ГРАУС звяртаецца да жыхароў рэгіёна: калі вы сталі ахвярамі юрыста Д., ці маеце што сказаць па гэтых справах - патэлефануйце, калі ласка, 54346, 58943.***

*Аддзел інфармацыі.*

**Урад думае**

# "Зеніт" пяройдзе на 4-дзёнку ?

*ВІЛЕЙКА. На 4-дзённы працоўны тыдзень плануе перайсці з 1 жніўня "Зеніт".*

Як паведаміў дырэктар завода **Мікалай Арсеньеў**, гэтую вымушаную неабходнасць абмяркоўваюць цяпер адміністрацыя і прафсаюзны камітэт. Прадпрыемству не хапае ўласных грашовых абаротных сродкаў нават на набыццё сыравіны.

Кіраўніцтва "Зеніта" у чарговы раз звярнулася па дапамогу. На просьбу падтрымаць вытворчасць урад з адказам не спяшаецца, але адміністрацыя "Зеніта" надзею не губляе.

*Святлана САРОКА.*

**Бег па крузе**

# Тры гады, каб знайсці праўду,- не тэрмін

*МЯДЗЕЛ. Хутка 3 гады, як Міхаіл Цяляк па розных інстанцыях шукае праўду. Яго справа разглядалася ў раённым судзе, абласным, рэспубліканскім. Затым - у суседнім вілейскім, а цяпер зноў у абласным. Ад гэтага бегу па крузе губляецца, калі яна была, вера ў справядлівасць. Цяляку павінны на сённяшні дзень 100 мільёнаў рублёў.*

У лістападзе 1994 года, зранку, дом Міхаіла загарэўся знутры. Работнік лясгаса на лесапагрузчыку перавозіў трактарны дызель. Закрануў правады, што цягнуліся па вуліцы. Напружанне ў 220 V пайшло на радыёкропку. На думку пажарных, гэта і з'явілася прычынай пажару.

З часам гаспадар дом адбудаваў. Але віноўнікі здарэння не спяшаюцца кампенсаваць страты. Напрыклад, у раённым судзе Цяляк прасіў спагнаць з адказчыка (лясгаса) 12 мільёнаў рублёў (на тыя грошы). У выніку суд вырашыў, што заплацяць Маладзечанскія электрасеткі. Абласны суд пакінуў усё як ёсць. А намеснік старшыні Вярхоўнага Суда Міранічэнка адмяніла рашэнне раённага суда і накіравала справу на даразгляд у Вілейку. Тыя вынеслі салідарную адказнасць - плаціце ўсе. Але электрасеткі прынцыпова не згаджаюцца і зноў падалі апеляцыю ў вобласць. Бег па крузе працягваецца.

*Васіль САВІЦКІ.*

# І патушым, і спяем

*СМАРГОНЬ. Пажарная служба раёна значна памаладзела (сярэдні ўзрост пажарных - 26 гадоў). Тэхнічна абнавілася - выкарыстоўваецца аўтамеханічная лесвіца, створаная газадымаахоўная служба.*

Акрамя выканання службовых абавязкаў, пажарныя і іх сем'і самі сабе наладжваюць адпачынак: па вобласці ў мастацкай самадзейнасці сталі другімі, I месца ў раёне занялі па гіравым спорце, II і III - па армрэслінгу.

*Аддзел інфармацыі.*

# Уліплі ля помніка Леніну

*ВІЛЕЙКА. Бананавая ледзі. Каб мець такое ганаровае званне, неабавязкова быць салодкай і зграбнай. Можна проста прадаваць бананы і ў хуткім часе трапіць калі не за краты, то ў славутую кнігу рэкордаў. Супрацоўнікі аддзела эканамічнай злачыннасці накіроўвалі да гандляркі аж шасцёх "пакупнікоў" і ўсіх тая аблічыла - да 3 тыс. рублёў кожнага.*

Месца дзеяння - плошча імя Леніна. Асноўная дзеючая асоба - дваццацігадовая жыхарка Маладзечна. Па дагаворы працавала на прыватнага прадпрымальніка з таго ж горада. Працавала ўдала. Па прыблізных падліках, за 3 гадзіны падманула кліентаў на 120 тыс. рублёў.

Бананавая ледзі раней была асуджана па двух артыкулах: за падманы пакупнікоў і нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

Аддзел эканамічнай злачыннасці інфармуе, што ў апошні час пачасціліся выпадкі рэалізацыі мукі I гатунку, як вышэйшага. Ля помніка Леніну ў Вілейцы маладзечанскія прадпрымальнікі на гэтым і ўліплі. Узбуджаны крымінальныя справы.

*Аддзел інфармацыі.*

# Долары, марачкі, манціровачкі

*АШМЯНЫ. У квартале "Будаўнікоў" удзень невядомы пры дапамозе манціроўкі ўвайшоў у кватэру. І выйшаў.*

Прыхапіўшы з сабою 1700 долараў ЗША, 3300 марак, 16 мільёнаў расійскіх рублёў і 50 мільёнаў беларускіх. Злачынцу шукаюць.

*Аддзел інфармацыі.*

**Ведай нашых**

# Па твары не білі, а так усяго было

*МАЛАДЗЕЧНА. Па выніках работы грамадскіх інспектараў-эколагаў Сяргей Прыгодскі прызнаны адным з лепшых па вобласці. Ён 10 год працуе ў паляўнічай гаспадарцы БТПР. Цяпер ён старшы егер і за ім замацаваны Палачанскі ўчастак. За апошні час склаў 14 пратаколаў, па якіх парушальнікі правілаў палявання і рыбнай лоўлі аштрафаваныя на суму звыш як 4 мільёны рублёў.*

- Як ставяцца да вас людзі, калі парушаеце іх адпачынак?

- Усякае было, аднаму ісці на браканьераў небяспечна. Штодзень праводзім рэйды. Глядзім, каб траву не палілі, машыны ў вадаёмах не мылі, не выкарыстоўвалі электравуды... Быў выпадак, калі ў час забароны рыбнай лоўлі наша брыгада з 5 чалавек выйшла на двух браканьераў. Адзін з іх адразу схапіў кол і пачаў адмахвацца - не падыходзь. Завалілі, але вопратку таму парвалі. Цяпер вось да следчага цягаюць, крымінальную справу ўзбудзілі. За сваю грамадскую работу атрымаў прэмію крыху больш за мільён. Але справа не ў грошах. Ёсць такое жаданне - дапамагаць.

*Андрэй ЮХНЕВІЧ.*

# Два тыдні з жыцця дэсантніка. Юнага

*МАЛАДЗЕЧНА. У дзень ад'езду ў трэніровачны летнік амаль бесперапынна ішоў дождж. Але ўсе, як адзін, выказалі жаданне ехаць. Тым болей, што палатачны гарадок ужо ўладкаваны. Там папрацавалі хлопцы са старэйшай групы.*



На месцы ўдзельнікаў збораў падзялілі на чатыры ўзводы. Ад 7 раніцы летнік ажываў. Расклад заняткаў дня ўключаў у сябе ранішнюю фіззарадку, раздзел традыцыйнага каратэ, ваджэнне матацыкла, уменне разабраць і сабраць палатку і байдарку, стральбу з пнеўматыкі, навучанне прыёмам самаабароны, прахаджэнне дэсантнай паласы перашкод, здача нарматываў і яшчэ многае іншае.



Вечарамі ўсе чатыры ўзводы збіраліся ля вогнішча. Вячэра, затым - дыскатэка, дзяжурства па графіку да раніцы.

А ў адзін з вечароў кіраўнік збораў клуба "Юны дэсантнік" Анатоль Казлоў папярэдзіў, што ноччу будзе трывога. Кожны камандзір узвода мусіў разбудзіць сваіх байцоў і хуценька пастроіць. Атрымаўшы карту, трэба было па азімуце выйсці на пасрэдніка, які даваў спецзаданне: па карце знайсці праціўніка і абясшкодзіць яго. Байцы з заданнем справіліся.





За час, праведзены ў лясным летніку, дзеці лепш спазналі адзін аднаго, навучыліся сябраваць, дзяліць радасць і няўдачу.

*Ларыса КАЗЛОВА.*

